Бялградзе: літаральна па адным слове ў кожным радку верша “Бялград”, і кожнае з іх трапляе ў самае сэрца і адносіць усіх аматараў сербскай сталіцы ў колазварот эмацыйных успамінаў.

Увага паэта часта фіксуецца на вузкім фрагменце прасторы, у аскетычнай велічы якога ён чэрпае натхненне для лірычных роздумаў. Ён амаль што абагаўляе свет прыроды вакол нас – ластаўку, салаўя, пчалу, траву... Творы Дж. Нікаліча – гэта гімн усяму наваколлю, гімн свету, які стварыў Бог, ва ўсіх яго праявах (верш “Пахвала дрэву”). Дарэчы, светаўспрыманне паэта адназначна хрысціянскага парадку. Намагаючыся спасцігнуць таямніцу існавання быцця і ходу часу, ён канстатуе Боскую прадвызначанасць усяго гэтага, а, пакутуючы за сваю маці-Радзіму, ён горача моліцца за будучыню роднай Сербіі, праваслаўнай Русі і ўсяго чалавецтва (верш “Малітва”).

З асобных вершаў паэта вынікае, што ўсё самае важнае, сапраўднае – па-за светам, улоўным для чалавечага вока, у асобным вымярэнні, убачыць прыгажосць якога здольны толькі паэт. Сімвалічны ў гэтым сэнсе вобраз гнязда: падкрэсліваецца, што яно “ні на небе ні на зямлі” – дзесьці між чалавечай рэальнасцю і нябёсамі.

Здаецца, ўсё самае прыгожае аддалена ад людзей, але пры гэтым паэт надае шмат увагі чалавеку і апявае яго. Лірычны герой разважае пра месца кожнай асобы ў гэтым свеце, бо ўсе аднолькава незаменныя, і займаюць сваё, унікальнае месца на планеце. І калі хтосьці сыходзіць – няхай самы незаўважны, самы маленькі чалавек – штосьці ў гэтым свеце губляецца. Як з тым дворнікам, якога “...праводзяць у апошні шлях / З двара / Пакрытага апалым лісцем” (верш “Дворнік”). Задаецца аўтар і пытаннем пра тое, як выглядае свет без чалавека – пытанне цікавае, бо звычайна мы бачым свет такім, якім яго ўспрымае наша свядомасць. Паглядзець на ўсё збоку мы не маем магчымасці. Філосафы нават спрабавалі паставіць пытанне, як кажуць, рубам: што з’яўляецца першасным – свядомасць ці матэрыя? Свой погляд на свет не сваімі вачыма ёсць і ў Дж. Нікаліча – гэта верш “Пазнака”.

Творы Дж. Нікаліча ў некаторым сэнсе ўяўляюць яго біяграфію – хутчэй духоўную, чым фактаграфічную. Ён асэнсоўвае ўласнае жыццё ў кантэксце быцця: напрыклад, сваё 33-годдзе як асаблівы этап у жыцці. Шмат сказана паэтам прыгожых словаў, працятых любоўю да родных і блізкіх, – да сваёй матулі, пра чыё месца ў сваім жыцці так пранікнёна разважае лірычны герой, уздымаючы яе да самага неба. На самога сябе паэт спрабуе паглядзець у межах свайго роду, уласнае жыццё разглядае праз памяць пра сваіх продках, абапіраецца на іх вопыт. Адсюль шмат твораў пра прадзедаў, дзядоў, бацькоў. У вершы “Помнік” паэт задумваецца пра тое, што было б, каб яго “тут Бог скамяніў, / які б гэта помнік быў бацьку і маці?” Тут мы бачым глыбокае ўсведамленне сваёй ролі і адказнасці як нашчадка сваіх дзядоў і бацькоў.

Прадстаўлена ў зборніку і любоўная лірыка паэта. Каханне, па Дж. Нікалічу, таксама ўпісваецца ў вечнасць, мае дачыненне да ўсяго сусвету ў самым шырокім яго разуменні: пярсцёнак для сваёй нарачонай лірычны герой дастае з “аднаго сузор’я / Што знікла навек / У яе вачах” (верш “Нарачоная”).

Цікавымі падаліся нам творы Дж. Нікаліча і з пункту гледжання формы. У вершах амаль адсутнічае пунктуацыя – радкі нанізваюцца на нашую свядомасць, нічым не прыпыненыя, у тым тэмпе і з тымі акцэнтамі, якіх патрабуе нашае адчуванне. Гэта спрыяе, на нашу думку, больш творчаму ўспрыманню тэкстаў чытачом. Паэт шмат эксперыментуе з формай сваіх твораў. Ён карыстаецца нават усходнімі формамі вершаў – хайку і танка. Звяртаецца паэт і да класічных формаў, такіх, як санет, прычым “Санет пра песню”, амаль на самым пачатку зборніка – быццам уступны матыў да ўсёй кнігі, пачатковы акорд. Вобразна,

сакавіта, натхнёна, з размахам піша паэт пра тое, як нараджаецца песня. І пасля гэтага, ужо ўзняты на вяршыню запалу чытач быццам акунаецца ў багатую, разнастайную стыхію паэзіі Дж. Нікаліча.

Джорджа Нікаліч працягвае доўгую і багатую традыцыю айчыннай літаратуры і ўпісвае сябе ў яе няспынны і павольны рух, звяртаючыся ў сваіх вершах да постацяў такіх сваіх папярэднікаў, як Ёван Дучыч. Гэты сербскі паэт, як і сам Нікаліч, некаторы час знаходзіўся ў эміграцыі. Фігуруюць у творах Нікаліча і рускія паэты – М. Цвятаева, Б. Пастарнак, А. Вазнясенскі і А. Салжаніцын. Дарэчы, калі спрабаваць звязваць творчую гісторыю Нікаліча з іншымі паэтамі, варта ўспомніць, што ў яго ёсць супольны зборнік з Іосіфам Бродскім і Тыматэўшам Карповічам (Three Slavic Poets, 1975).

На беларускай мове вершы Дж. Нікаліча выйшлі дзякуючы ўкладанню І. Чароты, з яго прадмовай і каментарыямі, у перакладах Л. Рублеўскай, В. Шніпа і, у першую чаргу, самога ўкладальніка. Кожны перакладчык, як заўсёды гэта бывае, па-свойму перадаў хараство твораў паэта. У перакладах І. Чароты паэзія Дж. Нікаліча надзвычай лаканічная, сэнсы канцэнтраваныя ў кожным слове, выразы афарыстычныя і быццам выкрышталізаваныя. З-пад пяра В. Шніпа выйшлі радкі мілагучныя і задуменныя, а вершы, пераствораныя Л. Рублеўскай, больш яскравыя, эмацыйна насычаныя. Кожны перакладчык прапусціў творы праз свой уласны сусвет, але пры ўсёй рознасці ўспрымання знаходзіцца гэтак званы “агульны множнік” – выражаны ў высокамастацкай форме духоўны вопыт вельмі глыбокай адоранай асобы. А ўсё астатняе – за чытачом, якому мы і прапануем звярнуцца да таямнічага паэтычнага свету твораў Дж. Нікаліча.

Віктар Сазонаў



...“Павук” не раскрывае сутнасць зла
і не ўзносіць да нябёс веліч дабра...

# Запаўняць пустоты вершамі

***Рэцэнзія на кнігу Сержука Сыса***

***Сяржук Сыс. Павук. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 98 с.***

Гісторыя ідзе сваім шляхам. Хуткім, магутным і несупынным, як палёт планет і зорак. Хто паспявае ісці з ёй у нагу, той адчувае сябе натуральна і ўпэўнена. Яму спрыяюць зоркі, поспех і навакольныя знаёмыя ды незнаёмыя людзі. Яго праблемы дробныя і хутка вырашальныя, нібыта адмыслова для таго й прыдуманыя, каб цешыць самалюбства свайго ўладальніка. Шчаслівы той, хто адчувае свой час і крочыць разам з ім пераможным маршам непераможнага чалавека.

Горш таму, хто не заўважае бегу гісторыі і апынаецца ззаду. Застаецца жыць ужо пражытым некім, і таму не зусім сваім жыццём. І вымушаны па сваёй простасці паўтараць ужо зробленыя некім памылкі, наступствы якіх даўно вядомыя ўсім, акрамя яго самога.

А найгорш паэту з абвостранымі пачуццямі і агаленымі нервамі, які бачыць, як і куды ляцяць гісторыя і час, хоча і здольны паспяваць за імі, але не можа гэтага сабе дазволіць. Бо




мусіць быць са сваім народам, які нібыта крот не заўважыў бегу часу і гістарычнай перспектывы ды застаўся недзе збоку ад хады гісторыі. І жыве не ў часе, а насуперак часу. Вось і носіцца паэт туды-сюды, не маючы ні прытулку, ні прыстанку ні ў будучым, ні ў мінулым. І толькі ў яго мроях уяўленне рэальнасці становіцца рэальнасцю. Толькі ў яго марах уяўленне рэчаіснасці становіцца рэчаіснасцю.

Ён стварае вершы. І верыць, што вершаванае слова знойдзе душу, якая адгукнецца яму. Што менавіта яно запоўніць пустоты, пустэчы і вакуум у душах, розумах і сэрцах...

Паэта бывае шкада. Шкада яго абвостраных пачуццяў. Шкада яго акрываўленай, босай душы. А пасля разумееш, што вось менавіта гэты паэт не можа не пакутаваць. Ён жа паэт. Сапраўдны паэт. Ён сваімі пакутамі ўздымае іншых, незнаёмых і невядомых яму людзей.

Вось таму і выходзяць з пад пяра паэтаў такія назвы зборнікаў як “Стрэмка”, тая самая “Стрэмка”, з-за пакутлівага верша-адчаю з рамантычнай назвай “Дзяўчына” у мяне спёрлі столькі асобнікаў гэтай кнігі з аўтарскім подпісам для мяне асабіста, колькі разоў я гэтыя кнігі паказваў чытачам. Ці вось цяперашні “Павук”...

Павук. Чаму павук? Перш за ўсё так вырашыў назваць свой зборнік сам аўтар. Таму што аўтара завуць Сяржук Сыс. Таму што чалавек Сяржук Сыс лётае з мінулага ў будучыню, бо бачыць як і куды ляціць гісторыя і час, хоча і здольны паспяваць за імі, але не можа гэтага сабе дазволіць. Бо мусіць быць са сваім народам, які застаўся недзе збоку ад хады гісторыі. І жыве не ў часе, а насуперак часу...

А паэт Сяржук Сыс ведае, як хутка і імклівa, “нібы ад свечкі тонкі дым”, зыходзіць час. Але ўпэўнены, што Творца створыць таго, хто падхопіць пачатае ім (“Несуцяшальна і нястрымна”).

Таму што паэт Сяржук Сыс цалкам, усёй сваёй істотай, з душой і нервамі так уваходзіць у вобразы сваіх герояў, што сам становіцца імі. Сам становіцца тым сябрам, якому прысвячае некалькі шчырых радкоў, сам становіцца горадам, па бруку якога сам жа і крочыць, і месяцам, з якім сам жа і п’е віно, і віном, якое п’е з месяцам, і павуком... Гэта пра такіх сказана, што на кожным вяселлі ён маладая, а на кожных паховінах нябожчык (“П’яны сон”). І ў кожным разе застаецца беларусам. Беларускім нябожчыкам, беларускай маладой, беларускім горадам, беларускім месяцам, беларускім віном, беларускім сябрам, беларускім павуком...

Ён, гарадскі на сённяшні дзень паэт, размаўляе з ветрам у вясковым коміне (“Размова з ветрам”), а на прыродзе, седзячы над Сожам, успамінае чужыя гарады, дзе вітае даўніна беларускага духу, (“Смаленск”), (“Беласток”), (“Вільня”). Або ўзгадвае мясціны, куды хоча ўцячы на нейкі кароткае імгненне яго беларускі дух (“Уцёкі ў Парыж”), каб хутчэй зноў вярнуцца ў сваю рэчаіснасць, у сваю рэальнасць, і ў такі знаёмы, такі свой і такі чужы час. І натхняцца там таямнічымі пейзажамі роднага краю з яго непаўторнымі, патаемнымі і сакральнымі з’явамі, якія наводзяць на роздум пра вечнае (“Дуб”).

Ну а падчас быцця ў тых чужых гарадах яго сэрца вяртаецца да сваіх сяброў, якія як і ён сам да паранаідальнага стану апантаныя беларушчынай ды ідэямі справядлівасці, і ён прысвячае ім шчырыя ды цёплыя радкі... І Алесю Бяляцкаму (“Абагрэты дзівосным святлом”), і Барысу Пятровічу (“Жыць не страшна”), і сярод іншых, пахвалюся, хаця крыху і нясціпла, і маёй сціплай персоне (“Усё было тут не аднойчы”).

І канечне ж бацьку (“Разальецца Дняпро па вясне”), і канечне ж жонцы (“Штогод з тумановае ніткі”)...

І многім іншым. Але толькі тым, каму, як і яму самому, у галаву прыходзяць роздумы пра дабро і зло. І ніколі тыя роздумы галаву не пакідаюць...

Але “Павук” не раскрывае сутнасць зла і не ўзносіць да нябёс веліч дабра. Не ставіць такой мэты. Адваротнага таксама не паказвае. І нічога не сцвярджае. Творчасць паэта застаецца недзе на мяжы разумення дабра і зла...

У “Павуку” сабраныя вершы розных гадоў. І як сказана на пачатку зборніка, гэта дае мажлівасць прасачыць эвалюцыю аўтара. Я не майстра такога даследвання. Але з упэўненасцю магу сказаць, што канкрэтна аб’ядноўвае ўсе яго вершы за ўсе тыя гады, акрамя імя аўтара. Усе яны адпавядаюць вялікай місіі паэта запаўняць пустэчы вершамі. Пустэчы ідэяў, пустэчы навукі, пустэчы чалавечых душ, пустэчы розумаў, пустэчы сэрцаў... Усе пустэчы. І тыя дзе патрэбны смутак, боль і слёзы, і тыя, дзе неабходныя злосць, рашучасць і бітва, і тыя, дзе патрэбны цяпло, пяшчота і радасць ...

І яшчэ беларускі дух. Можна быць сусветным творцам касмічнага маштабу, але з беларускай прапіскай. З той, дзе прапісалася душа... Душа якая баліць і крывавіць, бо муляе глыбока заселая стрэмка...

І каб вытрымаць гэты боль ад заселай глыбока стрэмкі, патрэбна мець цярпенне павука (нездарма “Павук” прысвечаны Галіне Дубянецкай). І той мудры беларускі павук шчодра дзеліцца сваім цярпеннем нават з такой эмацыйнай постаццю, як Сяржук Сыс. Зрэшты, дастаткова прачытаць гэты верш, каб зразумець, што іх сімпатыі адзін да другога ўзаемныя.

Таму “Павук”! Канечне ж, “Павук”. Хто ж яшчэ, акрамя павука? А што далей? Далей пакажа час. Час пакажа паэту, а паэт нам.

Кажуць, што вершы лепш успрымаюцца і глыбей западаюць у душу, калі чытач не ведае творцу асабіста. Зборнік “Павук” чытаецца лёгка, цікава і захапляльна нават пры ўмове, што аўтара ведаеш асабіста з усімі складанасцямі яго няпростай і непрадказальнай натуры. А таксама натуры творчай, мэтанакіраванай, цэльнай і беларускай. Там ёсць усё для чытання і роздуму.

Там жыццё і пачуцці, парывы душы, захапленні, надзеі, боль...

Там смутак і туга, пераплецены аптымізмам.

Там крык.

Там вершы, якія запаўняюць пустоты сабой.

# У віры быцця

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Ала Брадзіхіна. 90-60-90 (Сучасны літаратурны працэс: на шляху да ідэалу). – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2014. – 200 с.**




Сабраныя разам, навукова-крытычныя артыкулы Алы Брадзіхінай уражваюць перадусім ахопам эпохаў і персаналіяў: ад класікаў (Чачота, Баршчэўскага, Коласа, Танка, Ахматавай) – да сучаснікаў (Баравіковай, Арлова, Рублеўскай, Дранько-Майсюка, Хадановіча...). Але не толькі. Навуковая цэласнасць і сістэмнасць выкладу добра спалучаюцца з актуальнасцю падачы матэрыялу. Кожны тэкст спадарыні Брадзіхінай – ці гэта літаратуразнаўчы агляд, ці рэцэнзіі і крытыка – бліскучы ўзор сучаснага літаратуразнаўства. Акурат такога, якім яно мусіць быць сёння: грунтоўнага, крэатыўнага, дасціпнага – на шляху да ідэалу.

**Дар’я Вашкевіч. Бабаўняная дзяўчынка. – Мінск: Галіяфы, 2014. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 5). – 16 с.**




Серыя «Каляровы ровар» папоўнілася новай дзіцячай кнігай – «пра і для дзяўчатак і хлопчыкаў ад двух да ста дзевятнаццаці гадоў». Гэтая казка заняла другое месца ў літаратурным конкурсе «Экслібрыс» імя Янкі Маўра. Стварылі «Бабаўняную дзяўчынку» Дар’я Вашкевіч (тэкст) і Алена Медзякова (малюнкі). Паводле анатацыі, гісторыю пра бабаўняную дзяўчынку можна чытаць «удзень і ўначы, нашча ці толькі што пад’еўшы, лежачы пад коўдраю або ўскараскаўшыся на яблыню».

*«З дзецьмі трэба размаўляць, як з дарослымі, трэба дапамагчы ім зразумець і адчуць літаратурны сюжэт,* – мяркуе Алена Медзякова. – *Героі гэтай гісторыі — дзяўчынка, хлопчык і іншыя — валодаюць незвычайнымі якасцямі. Як гэта — бабаўняная дзяўчынка? Якая яна? У выніку нарадзіўся такі “бабаўняны” вобраз — дзяўчо з рудымі, надзвычай даўгімі, мяккімі валасамі і простым адкрытым тварам.*

Пісьменнік стварае гісторыю, мастак падштурхоўвае чытацкую фантазію, а самая галоўная справа — за маленькім чытачом, які ажыўляе і казку, і яе герояў.

**Ніл Гілевіч. У віры быцця. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 60). – 184 с.**




У кнігу Народнага паэта Беларусі ўвайшлі ўспаміны пра значныя падзеі грамадскага і культурнага жыцця, адлюстраваныя рэфлексіі пісьменніка, яго бачанне мінулага, цяперашняга і будучыні роднай краіны. Паэт чуйна рэагуе на сацыяльныя працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі і за яе межамі, дае ім ацэнку, прагназуе развіццё нашай нацыянальнай свядомасці.

Значнае месца на старонках новага выдання адведзенае апісанню і аналізу прачытанай літаратуры, айчыннай і замежнай, сучаснай і даўняй. Ніла Сымонавіча як чытача і даследчыка цікавяць тэндэнцыі і гісторыка-культурныя перадумовы стварэння тых або іншых кніг.

Па-ранейшаму важную ролю, па меркаванні паэта, у стане сучаснай

нацыянальнай культуры адыгрываюць ідэалагічныя інерцыі мінулага, “рэха” камунізму. Пераадолець кансерватыўнасць савецкага часу, звярнуцца да нацыянальнай ідэнтычнасці жыццёва неабходнай нам сёння, тут і цяпер, дзеля фарміравання будучых пакаленняў — тое, што найбольш турбуе пісьменніка:

*“Усе нашы заклікі захоўваць, даражыць, цікавіцца нацыянальнай культурай будуць давай мала плёну — датуль, пакуль не пачнем гэта ўнушаць дзецям ад калыскі, ад дзіцячых садкоў, з першых дзён у школе”.*

Але ж, нягледзячы на суплёт пакуль не вырашаных сацыяльных і культурных праблем, на якія ўказвае і з-за якіх перажывае Народны паэт, у кнізе «У віры быцця» адчуваецца подых вясны, надзеі, аптымізму на добрую будучыню беларусаў і Беларусі.

Асобна варта адзначыць дужа крэатыўную працу мастака вокладкі.

**Наталля Русецкая. Каштаны ў кішэнях. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 144 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»); вып. 15.**




Пасля даволі зацяглага перапынку ў Бібліятэчцы “Дзеяслова” выйшла новая паэтычная кніга. Падаецца, зададзеная аўтарамі папярэдніх зборнікаў планка трымаецца.

Кнігу склалі творы, напісаныя ў прасторы паміж Менскам і Люблінам. Паэзія Наталлі Русецкай – гэта блюз. Той самы блюз, калі добраму чалавеку кепска. Я-гераіня яе вершаў, падкрэслена жаноцкіх, – напаўпразрыстая істота, якая, падобна, сышла з палотнаў імпрэсіяністаў. Пры гэтым, маем той усцешлівы й нячасты выпадак, калі «паэзія пераўзыходзіць майстэрства» (А. Разанаў). Хаця і з тэхнікай у тэкстах Н. Русецкай усё ў парадку.

*Свечка*
*маёй*
*малітвы*
*нясмелай*
*успыхне*
*і гасне,*
*здзьмухнутая*
*сумневам.*

*Скажы:*
*і Табе*
*так*
*балела*
*першае*
*слова –*
*уздоўж*
*усяго*
*цела?*

**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXIV. №3 / укл. С. Астравец. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 212 с.**




Пабачыў свет «Новы Замак» №3, які выдаецца Гарадзенскім абласным аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў і асвятляе культурнае жыццё рэгіёна. На старонках альманаха, рэдактарам якога выступіў Юрка Голуб, а ўкладальнікам Сяргей Астравец, можна пабачыць тэксты 26 аўтараў.

Значнае месца адводзіцца паэзіі і прозе, а таксама дзённікам і сучасным мемуарам. Напрыклад, чытач знойдзе ў новым нумары ўспаміны пра Васіля Быкава, істотная частка жыцця якога звязаная з Гародняй. Гарадская, а таксама гістарычная тэматыка прываблівае аўтараў “Новага Замка”. З’явіліся новыя рубрыкі — “Фарбы Панямоння”, у якой выказваюцца мастакі пра ўласнае бачанне краявідаў і архітэктуры Гародні, і Civitat Grodnensis, куды ўвайшлі матэрыялы, прысвечаныя легендам і нядаўняму мінуламу горада.

Рэдакцыйная рада альманаха запрашае да супрацоўніцтва мясцовых беларускамоўных аўтараў. Дык далучаймася!

# Нашыя аўтары

**Аксак Валянціна** — паэтка, журналістка. Аўтарка кніг «Цвінтар», «Капліца», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца» і інш. Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Аркуш (Козік) Алесь** — паэт, празаік, крытык, выдавец. Аўтар кніг «Вяртанне», «Тайніца», «Крылы ператвораца ў карэнні», «Развітанне з Танталам», «Палімпсэст» і інш. Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Полацку.

**Баршчэўскі Лявон** – перакладчык, паэт, літаратуразнаўца, крытык. Перакладае з больш чым дзесяці моваў. Заснавальнік і намеснік дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Лаўрэат прэміі імя Ф. Багушэвіча Беларускага ПЭН-Цэнтра (1997). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Букоўскі Чарльз** – амерыканскі празаік, паэт. Аўтар каля сарака кніг, палова з якіх – зборнікі паэзіі. Нарадзіўся ў 1920 годзе ў Андэрнаху (Германія). Памёр у 1994 годзе.

**Васючэнка Пятро** – празаік, драматург, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар кніг «Драматургія і час», «Белы мурашнік», «Прыгоды аднаго губашлёпа», «Драматургічная спадчына Янкі Купалы: Вопыт сучаснага прачытання», «Адлюстраванне першатвора» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гіль (Гілевіч) Мікола** — празаік, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг прозы і публіцыстыкі «Ранішнія сны», «Пуд жыта», «Ёсць на зямлі крыніца», «Тэлеграма з Кавалевіч», «Пасеянае – узыдзе», «Камандзіроўка ў Вішанькі», «Кім і Валерыя» і інш. Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дрындрожык Уладзімір** – паэт, музыка. Скончыў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт (аддзяленне «Дызайн»). Сёлета выдаў музычны альбом «Зрабі крок назад» і намаляваў комікс «Пра Кастуся» паводле п’есы У. Караткевіча. Удзельнік музычнага гурта «Шэпт Срэбра». Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Віцебску. Жыве ў Мінску.

**Емяльянаў-Шыловіч Алесь** – паэт. Аўтар кнігі «Парасонечнасць». Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Крычаве. Жыве ў Мінску.

**Захаранка Мікола** — празаік, паэт, публіцыст, драматург. Аўтар кнігі «І тады ўдарыў бом». П’еса «Паехалі» (1996) ставілася на сцэне Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы. Проза і паэзія друкаваліся ў «Полымі», «Літаратуры і мастацтве», «Звяздзе» і інш. выданнях. Нарадзіўся ў 1949 годзе ў Васілевічах на Гомельшчыне. Жыве ў вёсцы Швабы на Лагойшчыне.

**Захарэвіч Зміцер** – паэт, бард. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. З 2002-га да 2012-га года праходзіў вайсковую службу ў органах пагранічнай службы Рэспублікі Беларусь. Маёр запасу. Вершы друкаваліся ў беларускай перыёдыцы. Аўтар трох электронных зборнікаў паэзіі. Лаўрэат «Фэсту аднаго верша» (2015). Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Ільіна Вікторыя** – мастачка. Лаўрэатка прэміі Гродзенскага аблвыканкама «За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва» ў намінацыі «Лепшы мастак года» (2002). Працы знаходзяцца ў калекцыі Музея сучаснага мастацтва (Мінск), Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, Музеі Максіма Багдановіча (Гродна), у прыватных калекцыях і галерэях. Нарадзілася ў 1960 годзе ў Гродне, дзе і жыве.

**Казько Віктар** — празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982). Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Камоцкі Алесь** — паэт, бард. Аўтар кніг паэзіі «Спроба ісці па расе», «Глыбіня дажджу», «48» і інш., кружэлак «Першы сшытак», «Я табе...», «Дым», «Дом», «Дах» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

**Комар Ганна** – перакладчыца. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Студэнтка Беларускага калегіюма (аддзяленне філасофіі і літаратуры). Нарадзілася ў 1989 годзе ў Баранавічах. Жыве ў Мінску.

**Навумава Ганна** – перакладчык, даследчык сербскай літаратуры. Некалькі яе прац – рэцэнзій, перакладаў, навуковых артыкулаў, прысвечаных творчасці пісьменніка Іва Андрыча, – апублікавана ў Сербіі. Нарадзілася ў 1991 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Паўлухін Андрэй** – празаік. Па адукацыі бібліятэкар-бібліёграф. Трэнер дзіцячых каманд па інтэлектуальных гульнях. Лаўрэат літаратурнага конкурсу «Новая беларуская фантастыка» (2011). Аўтар кніг «Белаполіс», «Партал», «Электрычныя сны», «Час ценяў». У творчасці пераважаўе кіберпанк, піша таксама ў жанрах фэнтэзі, альтэрнатыўная гісторыя, сцімпанк, пост'ядзерная і нерэалістычная проза. Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Рагачове, дзе і жыве.

**Пшыбышэўскі Станіслаў Фелікс** – празаік, драматург. Аўтар кніг: «Жалобная імша», «Homo sapiens» (трылогія раманаў), «Дзеці сатаны»; сімвалісцкіх драмаў «У імя шчасця», «Госці», «Залатое руно» і інш. Адзін з найбольш выбітных творцаў перыяду Маладой Польшчы. Яго раманы «Сінагога сатаны» і «Дзеці сатаны» апярэджваюць пошукі Дж. Джойса і М. Пруста. Нарадзіўся ў 1868 годзе ў Лоеве (Куявія, Польшча). Памёр у 1927 годзе.

**Рублеўская Людміла** — паэт, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтар кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Старасвецкія міфы горада Б*», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані», «Сутарэнні Ромула», «Ночы на Плябанскіх млынах» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Сазонаў Віктар** — публіцыст, журналіст, празаік. Аўтар кніг «Занатоўкі кантрабандыста», «Сандалі мітрапалітыка», «Паэзія прозы» і інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Гальшанах на Ашмяншчыне. Жыве ў Гародні.

**Содаль Уладзімір** – літаратуразнаўца, краязнаўца. Аўтар кніг «Францішак Бенядзікт Багушэвіч. Жыццё і творчасць», «Пуцявінамі сейбіта», «Кушлянскі кут», «Сцежкі Мацея Бурачка», «Жупранская старонка», «Тут бачу свой край», «Свіранскія крэскі», «Фальварак Карпілаўка» і інш. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў мястэчку Мормаль на Жлобіншчыне. Жыве ў Мінску.

**Спрынчан Аксана** — паэтка, празаік. Пераможца конкурсу «Літаратура — дзецям» (2009). Аўтар кніг «Вершы ад А.», «Хата для Моўчы», «ЖываЯ» і інш. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Жыве ў Мінску.

**Сыс Сяржук** — паэт, журналіст. Аўтар кніг вершаў «Стрэмка» і «Павук». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заспа на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Сямёнава Ала** — крытык, празаік, літаратуразнаўца. Аўтар кніг «Гарачы след таленту», «Слова сапраўднага лад», «У святой краіне выгнання» і інш. Нарадзілася ў 1938 годзе ў мяст. Бальшарэцкае на Камчатцы. Жыве ў Мінску.

**Тачыцкая Надзея** – празаік. Студэнтка другога курса Інстытута журналістыкі (спецыяльнасць Друкаваныя СМІ). Нарадзілася 14 мая 1996 года ў вёсцы Сваткі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Жыве ў Мінску.

**Філосаф Канстанцін (святы Кірыл)** – візантыйскі місіянер. Разам з братам Мятодам з'яўляецца стваральнікам славянскай азбукі. Лічыцца аўтарам «Прогласу» — першага славянскага пісьмовага паэтычнага твору. Нарадзіўся ў 827 годзе ў Салоніках. Памёр у 869 годзе ў Рыме.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**

### Лаўрэаты літаратурнай прэміі «Залаты апостраф» — за лепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» у 2014 годзе:

***«Проза».*** **Сяргей ДУБАВЕЦ. За апавяданне “Вайна і мір. Справаздача”, №71.**

***«Паэзія».*** **Людка СІЛЬНОВА. За нізку вершаў “Тэхніка дэтэктыўнага пісьма”, №69.**

***«Дэбют».*** **Мікіта НАЙДЗЁНАЎ. За нізку вершаў “Гэта не зразумее ніхто апроч”, №73.**

***Прэмію часопіса «Дзеяслоў» і Алеся Усені «За ўклад у развіццё сучаснай беларускай літаратуры»*** **атрымаў Ніл ГІЛЕВІЧ.**

   

**«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць новых лаўрэатаў.**

Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.



У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.